*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 38 (625)** **15 КАСТРЫЧНІКА 2003 г.**

# 12 кастрычніка 2003 года ў Менску прайшоў VIII з'езд ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны"



12 кастрычніка ў Менску прайшоў VIII з'езд Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Паводле дакладу Мандатнай камісіі на з'ездзе прысутнічала 146 дэлегатаў ад 45 рэгіянальных арганізацый, 82,5 % ад вылучаных. На з'ездзе прысутнічалі шматлікія госці, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, прэса.

З'езд заслухаў справаздачны даклад Старшыні ТБМ Алега Трусава, намеснікаў Старшыні Людмілы Дзіцэвіч, Алены Анісім, Сяржука Кручкова,намесніка старшыні Рэвізій най камісіі Міколы Лавіцкага, і рэдактара газеты "Наша слова" Станіслава Судніка.

Былі заслуханы прывітанні да з'езду, адбылося зацікаўленае і грунтоўнае абмеркаванне праблем мовы і дзейнасці ТБМ. Пры гэтым дзейнасць Таварыства за справаздачны перыяд была прызнаная станоўчай.

З'езд абраў новае кіраўніцтва ТБМ і прыняў шэраг выніковых дакументаў.

Старшынём ТБМ на новы тэрмін абраны **Алег Трусаў**, першым намеснікам - **Людміла Дзіцэвіч**, намеснікамі - **Сяржук Кручкоў** і **Алена Анісім**. Абраны новы склад Рады і Рэвізійнай камісіі. Старшынём Рэвізійнай камісіі абраны **Мікола Лавіцкі.**

З'езд абраў рэдактарам газеты "Наша слова" на новы тэрмін **Станіслава Судніка.**

Закончыўся з'езд гімнам "Магутны Божа".

Пасля з'езду адбылося паседжанне новай Рады, на якім былі зацверджны Сакратарыят і Рэдкалегія газеты "Наша слова".

## Рада
### ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", абраная на VIII з'ездзе ТБМ 12 кастрычніка 2003 г.

1. Аксак Валянціна
2. Анісім Алена
3. Арлоў Уладзімір
4. Багданкевіч Святлана
5. Баршчэўскі Лявон
6. Бураўкін Генадзь
7. Вячорка Вінцук
8. Гарэцкі Радзім
9. Гілевіч Ніл
10. Грыцкевіч Анатоль
11. Гуркоў Сяргей
12. Дзіцэвіч Людміла
13. Завальнюк Уладзіслаў
14. Запрудскі Сяргей
15. Зуёнак Васіль
16. Іпатава Вольга
17. Колас Уладзімір
18. Краўчанка Пётр
19. Кручкоў Сяргей
20. Кузьміч Вольга
21. Мазынскі Валер
22. Майсеня Людміла
23. Мальдзіс Адам
24. Марачкіна Ірына
25. Палсцюк Валеры
26. Санько Зміцер
27. Содаль Уладзімір
28. Трусаў Алег
29. Цыхун Генадзь
30. Чэчат Алесь
31. Банкевіч Генадзь
32. Іванова Бярнарда
33. Лапіцкі Аляксей
34. Трубач Таццяна
35. Мацкевіч Васіль
36. Сырыца Віктар
37. Бабіч Юры
38. Гаравы Леанід
39. Гарановіч Віталь
40. Камароўскі Мікалай
41. Навумчык Іосіф
42. Ролік Міхаіл
43. Рымша Алесь
44. Сом Алена
45. Місцюкевіч Алесь
46. Маркевіч Мікола
47. Пяткевіч Аляксей
48. Суднік Станіслаў
49. Трафімчык Таццяна
50. Бароўскі Анатоль
51. Піскун Людміла
52. Барэль Таццяна
53. Булавацкі Міхась
54. Лебедзева Наталля

## Рэвізійная камісія
### ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", абраная на VIII з'ездзе ТБМ 12 кастрычніка 2003 г.

1. Бордак Уладзімір
2. Галай Арказь
3. Качаноўская Наталля
4. Лавіцкі Мікола
5. Ялугін Эрнест



**У зале з'езду.** На пярэднім плане Вінцук Вячорка, Янка Брыль, Радзім Гарэцкі Лідзія Савік, Ніл Гілевіч

# Менск. Восень. Міцкевіч.



4 кастрычніка ў Менску ў скверы на скрыжаванні вуліц Няміга і Рамаанаўская Слабада, непадалёк Пішчалаўскага замка (турма на Валадарскага) адкрылі помнік Адаму Міцкевічу работы скульптара Застніцкага.

На ўрачыстым адкрыцці помніка вялікаму паэту прысутнічалі маршал Сената Рэспублікі Польшча Лангін Пастусяк, польскі пасол у Беларусі Тадэвуш Пауляк, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Генадзь Навіцкі, старшыня Менскага гарадскога Савета дэпутатаў Уладзімір Папкоўскі, іншыя афіцыйныя асобы.

Выступаючы на цырымоніі адкрыцця помніка, Лангін Пастусяк падкрэсліў, што "Адам Міцкевіч быў найвялікшым еўрапейцам, помнік якому павінен нагадваць беларускаму і польскаму народам аб іх адзінстве і братэрстве, аб іх вялікім мінулым". Пасол Польшчы ў Беларусі Тадэвуш Пауляк дадаў, што з сённяшняга дня Менск робіцца больш блізкім па духу Варшаве, а таксама яшчэ больш чым 40 гарадам свету, дзе стаяць помнікі паэту.

№ 38 (625) 15 КАСТРЫЧНІКА 2003 г. Наша слова

# Справаздачны даклад VIII з'езду ТБМ

## старшыні ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" Алега Трусава

(травень2001-лістапад 2003 гг.)

Паважаныя дэлегаты і госці з'езду!

Вітаю вас у сценах гэтага гістарычнага будынка, дзе пануе беларуская мова і гучыць духоўны гімн беларусаў свету "Магутны Божа". Напачатку некалькі слоў пра абсягі Таварыства. Дзякуючы Міністэрству юстыцыі, мы ўпершыню маем дакладныя лічбы па ўсіх рэгіянальных структурах ТБМ. Па стану на першага кастрычніка ў шэрагах ТБМ налічваецца 7 тысяч грамадзян Беларусі і каля 300 замежных грамадзян. Зараз на тэрыторыі Беларусі дзейнічае 109 рэгіянальных арганізацый, прычым 62 з іх стаяць на дзяржаўным уліку ў мясцовых органах улады. Суполкі ТБМ існуюць у Літве, Латвіі, Расіі, Украіне, Польшчы, Германіі, ЗША, Англіі, Канадзе і іншых краінах свету. Сакратарыят выдаў 1656 Пасведчанняў сябра ТБМ.

Зараз наша арганізацыя ўваходзіць у дзесятку самых вядомых недзяржаўных арганізацый Беларусі і наша дзейнасць шырока асвятляецца ў айчынных і замежных сродках масавай інфармацыі. Мы маем добрыя міжнародныя кантакты з адпаведнымі арганізацыямі Украіны, Польшчы і іншых краін. Мы ператварыліся ў праваабарончую арганізацыю, што бароніць лінгвістычныя правы нашых грамадзян, іх неад'емныя правы размаўляць і карыстацца беларускай мовай у розных сферах свайго жыцця і працы.

Адначасова актывізавалася і наша культурна-асветніцкая дзейнасць. Гэта розныя вечарыны, месячнікі, семінары, сустрэчы з пісьменнікамі, конкурсы, выдавецкая дзейнасць. Больш падрабязна аб гэтым распавядзе сп. Дзіцэвіч.

Трэці кірунак нашай дзейнасці — гэта беларускае кампутарнае забеспячэнне, змаганне за пашырэнне беларускай мовы ў СМІ, у тым ліку ў Інтэрнэце, а таксама распрацоўка канцэпцыі міжнароднага спадарожнікавага беларускага тэлеканала. Інфармацыю на гэтую тэму давядзе да прысутных Сяржук Кручкоў.

Актыўна працавала і наша прэса. 25 сакавіка 2002 года была зарэгістравана другая ўсебеларуская газета ТБМ "Новы Час", якую ўзначаліла Алена Анісім. Сёння ў нас будзе магчымасць паслухаць яе справаздачу, а таксама выступ галоўнага рэдактара "Нашага слова" Станіслава Судніка. Маючы дзве газеты, а таксама некалькі рэгіянальных бюлетэняў можна паспяхова весці культурна-асветніцкую работу.

Назіраецца пашырэнне структур ТБМ у рэгіёнах Беларусі. За апошнія два гады стварыліся новыя суполкі ТБМ у Драгічынскім, Берасцейскім, Воранаўскім, Шумілінскім, Шучынскім, Іўеўскім, Бераставіцкім, Докшыцкім, Дубровенскім і Менскім раёнах. Аднак шмат яшчэ ёсць раёнаў на Магілёўшчыне, Берасцейшчыне і Гомельшчыне, дзе адсутнічаюць нашыя структуры, а тыя што ёсць знаходзяцца ў стане закрыцця. Такая сітуацыя склалася ў Касцюковіцкім, Калінкавіцкім і Крычаўскім раёнах. Практычна не працуе Берасцейская абласная арганізацыя і мы вырашылі разгледзець гэтае пытанне на канферэнцыі дэлегатаў з Берасцейскай вобласці, якая адбудзецца сёння, падчас абеду. Далёка не ўсе нашыя структуры здалі сяброўскія складкі яшчэ за мінулы год, не кажучы ўжо пра сёлетні гадавы ўнёсак.

За справаздачны перыяд кіраўніцтвам праведзены 6 пасяджэнняў Рэспубліканскай Рады і 33 сакратарыятаў. Пра фінансавыя справы ТБМ вы пачуеце ў дакладзе Рэвізійнай камісіі.

За апошні час рабочая група дапрацавала тэкст Стратэгіі развіцця беларускай мовы, прынятай на мінулым з'ездзе. Дазвольце выказаць шчырую падзяку сп. сп. Сымону Барысу і Вользе Кузьміч, якія давялі гэтыя тэксты да працоўнага стану і падрыхтавалі яго да друку. Сёння кіраўнікі абласных структур ТБМ атрымаюць дыскеты з тэкстамі Стратэгіі для штодзённай працы.

Галоўным кірункам дзейнасці арганізацыі з'яўляецца пашырэнне сферы ўжытку беларускай мовы, праца па наданні ёй рэальнага статусу дзяржаўнай.

У 2002 годзе прапановы ТБМ былі ўлічаны пры падрыхтоўцы новай рэдакцыі закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Дзякуючы гэтаму, у артыкуле 5 Закона запісана, што "дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню беларускай мове, выданню літаратуры і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка". А паводле артыкула 32 "Сістэма вышэйшай адукацыі забяспечвае грамадзянам магчымасць навучання на адной з дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь шляхам



стварэння ў ВНУ беларускамоўных і рускамоўных груп (плыняў)". Такая заканадаўчая база стала добрым грунтам у нашай працы па пашырэнні беларускамоўнай адукацыйнай прасторы. Мы звярнуліся ва ўсе аддзелы адукацыі краіны, вышэйшыя навучальныя ўстановы з пытаннямі аб тым, як выконваецца імі існае заканадаўства. Як вынік – адкрыццё з 1 верасня 2002 года беларускамоўнай гімназіі на базе 23 СШ, спроба адкрыцця беларускамоўнага класа ў Магілёўскай нацыянальнай гімназіі, стварэнне студэнцкай беларускамоўнай групы ў Менскім медыцынскім інстытуце.

Звяртаем Вашую ўвагу і на тое, што ў пераважнай большасці беларускамоўных школ не вытрымліваецца моўны рэжым. Частка прадметаў (а часам пераважная большасць іх), нават у вясковых школах, выкладаецца не на беларускай мове. У гарадской мясцовасці працуе толькі 51 беларускамоўная школа (з іх 7 у Менску). У 118 раённых цэнтрах Беларусі ўсяго 44 школы з беларускай мовай навучання. Гэта сведчыць пра тое, што ў большасці гарадоў краіны не забяспечваецца канстытуцыйнае права выбару мовы навучання і выхавання (артыкул 50 Канстытуцыі). Дэклараваная ўпраўленнямі адукацыі гатоўнасць навучаць дзяцей па-беларуску ў рускамоўных школах - на практыцы пусты гук.

Варта адзначыць, што прынятая 27 жніўня 2001 г. Пастанова № 48 Міністэрства адукацыі пад назовам "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" практычна не выконваецца. Упэўнены, што гэтая Пастанова прымалася папярэднім кіраўніцтвам Міністэрства невыпадкова. Яе з'яўленне было выклікана зніжэннем колькасці вучняў, якія навучаліся па-беларуску, з 30% у 1999/2000 навучальным годзе да 29% у 2000/2001 г. Згодна з класіфікацыяй ЮНЭСКА лічыцца, што калі на роднай мове гаворыць менш за 30% дзяцей і моладзі, то мова знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Сёлета зніжэнне колькасці дзяцей, якія навучаюцца па-беларуску, дасягнула рэкордна нізкай адзнакі - 26,3%.

У 2002 годзе не змаглі працягнуць адукацыю на беларускай мове 23276 выпускнікоў беларускамоўных школ (27,1% ад агульнай колькасці выпускнікоў). Сёлета адбыўся самы вялікі беларускамоўны выпуск - 24688 вучняў, гэта 28,2% ад агульнай колькасці выпускнікоў, для якіх сапраўдная беларускамоўная адукацыя на гэтым закончыцца. А Міністэрства адукацыі, яго галоўнае ўпраўленне вышэйшай і сярэдняй адукацыі, рэктары ВНУ не спяшаюцца выконваць артыкул V вышэйзгаданай Пастановы.

Таварыства пастаянна патрабуе ад уладных структур пашырэння беларускамоўнага вяшчання на радыё і тэлебачанні, дапамагае грамадзянам краіны адстаяць свае канстытуцыйныя правы на атрыманне адукацыі ў роднай мове, імгненна рэагуе на самыя розныя правы вынішчэння і дыскрымінацыі роднага слова. З нагоды закрыцця на радыё беларускамоўнай перадачы "Голас душы" з Чырвонага касцёла, адмены ў школах экзамена па беларускай літаратуры, пераследу Саюза беларускіх пісьменнікаў і шмат іншага – былі прынятыя адпаведныя заявы, звароты, заклікі. Дзякуючы актыўнасці сяброў ТБМ, за кароткі час ў аўтаматызаваную службу (088) дакладнага часу па Менску была вернута беларуская мова. Зараз мы можам пачуць і прагноз надвор'я па-беларуску, калі набярэм адпаведны нумар тэлефона. Мелі станоўчы вынік нашы лісты кіраўніцтву Польшчы аб захаванні беларускай службы "Радыё Палонія". Актыўна працуе і бібліятэка ТБМ, якая мае звыш 1500 адзінак беларускіх кніг, з іх каля 150 кніг рарытэтныя, бо былі надрукаваны ў 1900-1930 гг. Каля 220 адзінак з кнігазбору бібліятэкі ТБМ маюць дароўныя подпісы і аўтографы ранейшых ды сучасных аўтараў.

Сёння дарэчы ўзгадаць і нашых сталых сяброў-дабрадзеяў, якія падтрымліваюць ТБМ матэрыяльна і запрошаны на з'езд у якасці дэлегатаў і гасцей. Гэта Васіль Петруковіч, Іван Жытко, Фелікс Шкірманкоў, Антон Фурс, Марыя Сафро, Анатоль Скрэчка, Міхась Собаль, Надзея Барт-Юрэвіч, Валер Палсюк, Іна Казлоўская і шмат іншых.

Адным з новых кірункаў дзейнасці ў 2002 годзе стала праца па стварэнні кампутарнай праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах, а таксама пошукі шляхоў стварэння спадарожнікавага тэлебачання на беларускай мове.

ТБМ разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі прымала актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні Міжнароднага сімпозіуму "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі". У падрыхтоўчы да сімпозіуму перыяд мы правялі тры "круглыя сталы" па наступных тэмах: "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу"; "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар"; "Мова і адукацыя. Падручнікі, методыкі і дапаможнікі".

Зараз ТБМ плённа супрацоўнічае з Канстытуцыйным Судом Рэспублікі Беларусь. У выніку гэтага супрацоўніцтва Камітэт па стандартызацыі, метралогіі і сэртыфікацыі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь уключыў у новыя беларускія стандарты ўжыванне дзяржаўнай беларускай мовы пры маркіроўцы тавараў як абавязковай, чаго раней не было. Па нашай прапанове адпаведная Камісія Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі падрыхтавала змены ў існы "Закон аб мовах", але ў парадак дня восеньскай сесіі ён пакуль не ўключаны.

Нельга не сказаць і пра распаўсюд беларускай мовы ў царкве. За апошнія два гады выйшлі грунтоўныя пераклады Бібліі на беларускую мову айца Чарняўскага і Васіля Сёмухі. Вельмі актыўную пазіцыю ў гэтым пытанні ў апошнія часы заняў рыма-каталіцкі касцёл, дзе зараз наша мова актыўна выкарыстоўваецца ў набажэнстве і справаводстве. Трэба таксама адзначыць дзейнасць праваслаўнага брацтва "Трох віленскіх пакутнікаў", пратэстанцкай царквы "Благадаць", беларускіх татараў-мусульман, якія лічаць сваёй роднай мовай беларускую. З усімі вышэйзгаданымі канфесіямі ў сяброў ТБМ маюцца добрыя стасункі і ўзаемапавага.

Усе беларускае грамадства ўзрушыла вестка аб закрыцці Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя, які з'яўляецца адной з лепшых навучальных устаноў Беларусі. Мы актыўна падтрымліваем імкненні ліцэістаў і іх бацькоў навучацца па-беларуску і таму прымаем на з'ездзе адпаведную заяву. Відаць, варта новаму кіраўніцтву ТБМ разгледзець пытанне аб адкрыцці на базе ліцэя з верасня 2003 года Беларуская народнага універсітэта з беларускай мовай навучання пакуль на грамадскіх пачатках. Такім чынам наша таленавітая моладзь зможа атрымаць і вышэйшую адукацыю на роднай мове, якую потым замацуе ў лепшых універсітэтах Еўропы.

Нельга не згадаць і сітуацыю, што склалася на беларускай чыгунцы і Беларускім тэлебачанні. Спробы вывесці амаль цалкам беларускую мову з ужытку ў вышэйзгаданых дзяржаўных установах павінны атрымаць рашучы адпор.

Дарагія сябры! Мы падрыхтавалі праекты заявы і звароты з'езду ТБМ да грамадства і жыхароў Беларусі. Спадзяюся, што Вы возьмеце актыўны ўдзел у іх разглядзе і прыняцці.

Дзякую за ўвагу.

*Старшыня ТБМ*
*Алег Трусаў.*






# Даклад рэвізійнай камісіі

## *VIII з'езду ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"*

Рэвізійная камісія папярэднім з'ездам была абрана ў наступным складзе:

***Галай Аркадзь***
***Гюнтэр Барыс***
***Качаноўская Наталля***
***Кійка Мікола***
***Лавіцкі Мікола***

У сваёй дзейнасці камісія кіравалася адпаведнымі патрабаваннямі Статута Таварыства па наступных кірунках:

- Кантроль дзейнасці выбраных органаў і структурных падраздзяленняў Таварыства ў адпаведнасці Статуту ТБМ і дзейнаму заканадаўству.

- Праверка арганізацыі справаводства, тэрмінаў і зместу адказаў на лісты і заявы, што паступаюць у Раду.

- Катроль выканання патрабаванняў Статута сябрамі ТБМ.

- Дакументальная рэвізія фінансава-гаспадарчай дзейнасці Рады.

- Кантроль выкарыстоўвання грашовых сродкаў, што паступалі. Мэтазгоднасць выдаткаў якія, праводзіліся.

- Праверка выканання планаў работы, рашэнняў Рады, з'езду.

- Праверка стану захавання грашовых сродкаў, матэрыяльных каштоўнасцяў.

- Праверка арганізацыі ўліку сяброў Таварыства.

- Кантроль за правамоцнасцю праводзімых пасяджэнняў.

Трэба адзначыць, што наша Грамадскае аб'яднанне, як і належыць, дзейнічала ў адпаведнасці Статуту і дзейным Законам Рэспублікі Беларусь. Гэта дзейнасць, як бачна, была пад пільным кантролем адпаведных дзяржорганаў. Было вынесена тры папярэджанні. Адно было абскарджана у судовым парадку, другое - вялікадушна адмяніў сам Мінюст, хоць суд вынес рашэнне на яго карысць. Заўвагі трэцяга - былі своечасова ліквідаваны. Уласна рэвізійнай камісіі ўдзельнічаць у праверках дзейнасці падраздзяленняў Таварыства не давялося, таму што не было неабходнасці і матэрыяльных сродкаў.

На неблагім узроўні вялося ў ТБМ справаводства. Ёсць пратаколы папярэдніх з'ездаў, пасяджэнняў Рады, Сакратарыяту. Усе паседжанні праходзілі ў адпаведнасці Статуту, тэрміну і планам работы з захаваннем правамоцнасці. На пасяджэнні запрашаліся і прысутнічалі сябры рэвізійнай камісіі.

Усе ўхадныя лісты, заявы ў Раду рэгістраваліся ў неабходнай для гэтага кнізе. Адказы даваліся своечасова ў вызначаны законам тэрмін, што можна лёгка



ўдакладніць праз рэгістрацыю.

Камісія не здолела своечасова забяспечыць праверку выканання Статута сябрамі ТБМ. Маюць месца парушэнні аднаго з патрабаванняў — своечасовая плата сяброўскіх складак.

Планы работы намечаныя Радай у асноўным выконваліся. На чарговых паседжаннях і праз газету "Наша слова" даводзілася інфармацыя аб выкананні ўласных, раней прынятых рашэнняў, як самой Радай, так і Сакратарыятам.

У сядзібе Таварыства надзейна было арганізавана захаванне маёмасці, грашовых сродкаў. Арганізавана ахоўная варта. Ёсць кніга ўліку, дзе на найбольш каштоўныя рэчы указаны ўласны, заводскі інвентарны нумары. Але, на жаль, мела месца калі праз аднятую шыбіну і ячэйку ваконных кратаў злодзеі здолелі скрасці некаторыя часткі аднаго з кампутараў.

У Таварыстве наладжаны дасканалы ўлік сяброў ТБМ, чым можна ганарыцца. Выдаюцца пасведчанні.

Свае паседжанні рэвізійная камісія пратакалавала, але не заўсёды своечасова праводзіла свае пасяджэнні. Заяў, скаргаў, лістоў, прапаноў у камісію за справаздачны перыяд не паступала. Камісія не забяспечыла пастаянны кантроль за мэтазгоднасцю выкарыстоўвання ўсіх наяўных грашовых сродкаў. Новаму складу Рады неабходна звярнуць увагу на больш дэталёвы ўлік маёмасці, рабіць перыядычную інвентарызацыю. Завесці наменклатуру спраў (улік рэгістрацыйных журналаў, пратаколаў, бухгалтарскіх кніг і г. д.), зацвердзіць яе на пасяджэнні Рады ці Сакратарыяту. Лічым мэтазгодным пасылаць у рэгіянальныя арганізацыі адну асобу ад Рады, а не болей.

Фінансава-гаспадарчую дзейнасць перыядычна правярала палатковая камісія. Напярэдадні з'езду камісія разгледзела фінансава-гаспадарчую дзейнасць Рады. Дазвольце давесці да ведама дэлегатаў акт справаздачы.

### Акт

У 2002 годзе на рахунак ТБМ паступіла:
Ахвяраванні — 7884869 руб.
Складкі — 1257269 руб.
Асноўныя накіраванні, на якія былі пералічаны грошы:

1. Аарэнда памяшкання і камун. паслугі — 2017459 руб.
2. Тэлефон — 1026221 руб.
3. Заробак — 2218443 руб.
4. Падатак ФСАН — 791015 руб.
5. Падатак у фонд занятасці — 21969 руб.
6. Падатак на нерухомасць — 10603 руб.
7. За фотаздымкі для газеты "Наша слова" — 730128 руб.
8. Водаканал — 68650 руб.
9. Ахвяраванне на выданне "Наша слова" — 1265000 руб.

### Акт

З 1.01. па 1.09.03 года на рахунак ТБМ паступіла:
Ахвяраванні — 4399900 руб.
Складкі — 941400 руб.
Асноўныя накіраванні, на якія былі пералічаны грошы:

1. Арэнда памяшкання і камун. паслугі — 1313320 руб.
2. Тэлефон — 849055 руб.
3. Заробак — 1281172 руб.
4. Падатак ФСАН — 475436 руб.
5. Падатак у фонд занятасці — 11600 руб.
6. Падатак на нерухомасць — 6606 руб.
7. За фотаздымкі для газеты "Наша слова" — 288060 руб.
8. Водаканал — 37742 руб.
9. Ахвяраванне на выданне "Наша слова" — 900000 руб.

У наступны склад Рэвізійнай камісіі прапаноўваем абраць:

1. Бордака Уладзіміра,
2. Галая Аркадзя,
3. Качаноўскую Наталлю,
4. Лавіцкага Міколу,
5. Ялугіна Эрнэста.

Старшынём прапаноўваем абраць Лавіцкага Міколу.

Даклад зацверджаны на пасяджэнні камісіі 4 кастрычніка 2003 г.

Пратакол № 4.

# Справаздачны даклад VIII з'езду ТБМ

## рэдактара газеты "Наша слова" Станіслава Судніка

Шаноўнае спадарства!

Шэсць гадоў назад, у кастрычніку 1997 года Рада ТБМ прыняла пастанову аб часовым перадачы выдання газеты "Наша слова" ў Ліду. На дварэ кастрычнік 2003 года. Праз паўтара месяцы мы рыхтуемся выдаць 300-ты лідскі нумар. Але сёння я мушу зрабіць справаздачу толькі за апошні перыяд, два з нечым гады ад мінулага з'езду.

Гэтыя гады былі вельмі няпростыя. Варта адзначыць, што толькі за прамежак часу ў адзін каляндарны год, у Беларусі было закрыта 27 недзяржаўных газет з розных прычынаў. Да прыкладу на гэтым тыдні пазбаўлены пасведчанняў аб рэгістрацыі такія вядомыя газеты, як "Наша свабода" і "Рабочы".

Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала прэстыжную міжнародную прэмію за працу ў экстрэмальных умовах. "Залатое пяро свабоды". За больш 40 гадоў існавання "Залатога пяра свабоды" толькі другі раз ім узнагароджваўся не асобны журналіст, а цэлая арганізацыя. Упершыню гэта здарылася ў 1969 годзе. Тады "Пяро" было ўручана чэхаславацкай прэсе.

Далёка не ўсе газеты, якія перасталі выходзіць, прыпыніла ўлада. Многія з іх закрыліся па эканамічных прычынах. Не абмінулі фінансавыя праблемы і нашую газету. У "Нашым слове" ўнутранне дэфолт адбыўся ў траўні 2002 года.

Не сакрэт, што эканамічны стан "Нашага слова" ніколі не быў бліскучым. Часцком нам удавалася выжываць толькі таму, што побач з "Нашым словам" Лідская арганізацыя ТБМ выдавала і выдае яшчэ некалькі выданняў. І часта запазычанасці "Нашага слова" закрывалі "Лідскі летапісец" або "Тэлескоп". Бывала і наадварот Бухгалтэрыя кожнага выдання ў нас асобная, таму гэта лёгка спраўдзіць.

У траўні 2002 года грошай не стала ні ў кога.

Давялося прымаць экстранныя захады для выратавання газеты. Тады нашыя чытачы заўважылі, што быў прапушчаны адзін нумар, але гэта знешняя праява.

На самай справе быў звольнены ўвесь склад рэдакцыі. Было часова, амаль на год, прыпынена выданне газеты "Тэлескоп", і там таксама звольнены ўсе супрацоўнікі. Газета "Наша слова" была пераведзена на чатыры старонкі. Мы выбілі сябе дэбіторскія запазычанасці і замарозілі крэдыторскія, а мо наадварот, і, нарэшце, у гэты цяжкі час актыўную фінансавую дапамогу пачала аказваць рэспубліканская Рада і асобныя сябры ТБМ. Сур'ёзную падтрымку акрамя рэспубліканскай Рады нам аказаў Фонд падтрымкі і развіцця рэгіянальнай прэсы.

Асноўныя ж сродкі, якія мы мелі для выдання, гэта грошы ад падпіскі на газету. І таму з гэтай трыбуны я перш за ўсё хачу падзякаваць усім нашым чытачам і падпісчыкам. Толькі дзякуючы вам мы выжылі і, наогул, існуём.

Некалькі слоў пра цэнавую палітыку. Мы ўвесь час імкнуліся трымаць невысокія цэны, каб газета была больш даступнай. Саюздрук увесь час патрабуе ад нас павышэння цэнаў, бо ім прасцей прадаць адну газету за 500 рублёў, чым тры па 150. Мы доўга не ішлі на павышэнне, пакуль гэта не адбылося само сабой. Справа ў тым, што падпіска арганізуецца праз "Белпошту". Там пастаянна мяняюцца каэфіцыенты, тарыфы і г. д. Пры нашым нязначным павелічэнні цаны на адзін асобнік на 30 рублёў кошт падпіскі ў 3-м квартале раптам падняўся на 80 працэнтаў. Услед за падпіскай мы змушаны былі падняць і кошт газет у розніцу.

Пра зместавую палітыку.

Газета, як была, так і застаецца народнай газетай паводле зместу. Мы не маем на сёння ні аднаго штатнага журналіста. Усе нашыя карэспандэнты працуюць на грамадскіх пачатках без ганарараў. Як правіла матэрыялы нашых карэспандэнтаў дастаткова прафесійныя. Асноўны недахоп нашых матэрыялаў – гэта нізкая аператыўнасць Мы апрыёры губляем аператыўнасць падачы інфармацыі ўжо за кошт таго, што выходзім адзін раз на тыдзень. У дадатак да гэтага самі матэрыялы прыходзяць праз значны час пасля падзеі. Здараецца, што ад Леакадзіі Мілаш з Вільні матэрыял пра падзею ў Беларусі прыходзіць раней, чым пра тую ж падзею з самой Беларусі.

На сёння мы часткова вырашаем праблему аператыўнасці за кошт таго, што заключылі дамову на пастаўку бясплатнай інфармацыі з агенствам БелаПАН. Вы напэўна заўважылі гэта па пошніх нумарах. Разам з тым мы вымушаны, прынамсі часова, адмовіцца ад пакупкі фотаздымкаў агенства "БелТА. Вельмі дорага. З дакладу старшыні Рэвізійнай камісіі вы чулі гэтыя лічбы.

Газета на працягу справаздачнага перыяду, не гледзячы на з'яўленне "Новага часу", прадаўжала заставацца рэспубліканскім органам Таварыства беларускай мовы. Мы не вядзём барацьбу за газету дзеля газеты і не баімся друкаваць усю афіцыйную перапіску Таварыства, усе пастановы заявы і г. д. Мы лічым, што гэтая інфармацыя вельмі патрэбная. Гэтая афіцыйная хроніка з жыцця Таварыства не падаецца больш нікім, разам з тым яна выклікае значную цікавасць. Зусім нядаўна мы апублікавалі перапіску адносна лёсу фрэсак Спаса Ефрасінеўскай царквы і Лідскага замка, а мне ўжо патэлефанавалі з Горадні з запытам, ці можна размясціць у газеце практычныя прапановы па рэстаўрацыі Лідскага замка.

Газета па меры магчымасці адсочвала ўсе найважнейшыя падзеі і юбілеі ў культурным і нацыянальным жыцці краіны. Мы, мабыць, адзіная газета, якая сістэматычна, пачынаючы з вясны падае матэрыялы да 140-х угодкаў паўстання 1863 года. Паводле водгукаў чытачоў удачай газеты была публікацыя п'есы Алеся Петрашкевіча пра Кастуся Каліноўскага. Гэта была мабыць лепшая публікацыя гэтага года ў беларускіх СМІ на тэму паўстання.

Я прашу прабачэння ў тых аўтараў, чые матэрыялы не трапілі ў друк, ці пулікацыя была надоўга затрымана. Гэта здаралася ў сувязі з малым аб'ёмам газеты. На сёння аб'ём газеты аднаўлены, пачынаецца плаўны пераход на 12 старонак. З'яўляецца магчымасць публікацыі вялікіх матэрыялаў, і я звяртаюся да ўсіх сяброў ТБМ, да ўсіх дэлегатаў з'езду з просьбай падтрымаць газету інфармацыйна. Патрэбны свежыя, надзённыя, эксклюзіўныя матэрыялы па тэматыцы "Нашага слова"

Нагадваю маладым навукоўцам што паводле інфармацыі, атрыманай з Гарадзенскага універсітэта, публікацыі ў "Нашым слове" да гэтага часу залічваюцца, як навуковыя публікацыі да абароны дысертацый, прынамсі, на некаторых кафедрах.

Такім чынам, як мне падаецца, рэдакцыя і рэдкалегія ў справаздачны перыяд газету ўтрымалі, і пры ўсіх яе недахопах Таварыства падышло да з'езду з паўнавартасным друкаваным органам.

***Станіслаў Суднік.***

# Удакладненне

**У "Нашым слове" № 35 пры публікацыі звестак пра ўплату сяброўскіх складак Сакратарыятам не былі ўлічаны складкі Баранавіцкай і Смілавіцкай арганізацый за 2002-2003 гады, Віцебскай гарадской і Наваполацкай арганізацыі за 2002 год.**

# Справаздачны даклад VIII з'езду ТБМ

## першага намесніка старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч

Культурна- асветніцкая праца іграе вялікую ролю ў выхаванні людзей, фармаванні іх светапогляду, развіцці нацыянальнай свядомасці.

Таварыства беларускай мовы заззычай праводзіла шмат імпрэзаў у гэтай прасторы, аднак не заўсёды якасць адпавядала колькасці, на сёння не вырашаныя многія праблемы. Але сёння мы бачым і вынікі нашай працы. Таму на з'ездзе нам трэба галоўную ўвагу звярнуць не столькі на праведзенае, колькі на новыя падыходы ў працы, перспектыўныя змены ў нашай культурна - асветнай палітыцы.

Сёння значна пасвядомелі жыхары Беларусі, асабліва моладзь. Яны ўжо не аперуюць агульнымі імперскімі паняццямі, кажучы пра Расію,— мы, рускія, нашы, у нас; яны размяжоўваюць паняцці наша краіна Беларусь і суседняя краіна Расія. Таварыства таксама паспрыяла гэтым зменам. Так, напрыклад, выданне сціплай кніжачкі "Беларускі спеўнік" Гарадзенскай абласной радай задаволіў патрэбы беларусаў спяваць свае песні.

Адзначэнне юбілейных датаў паспрыяла жаданню святкаваць сваё. А леташнія два гады былі багатыя на значныя юбілейныя даты. Выданнем каляндарыкаў і плакатаў былі адзначаныя юбілеі Браніслава Тарашкевіча (110 гадоў), Міхася Ткачова (60), Ігната Дамейкі (120), Янкі Купалы і Якуба Коласа (120), Кастуся Каліноўскага (165), Францішка Аляхновіча (120), Язэпа Лёсіка (120) , Вацлава Ластоўскага (120), Максіма Гарэцкага (110), Наталлі Арсенневай (100). Да гэтых юбілеяў былі змешчаныя публікацыі ў газетах "Наша слова" і "Новы час" і інш., праведзеныя вечарыны ў Менску і рэгіёнах.

Так, ушанаванне памяці Тарашкевіча было шырока наладжана ТБМ Віленскага краю па ініцыятыве кіраўніка Юры Гіля. Сябры нашага Таварыства правялі вечарыны ў памяць Міхася Ткачова ў Жодзіне, Мсціславе, Лідзе, Горадні, Віцебску. Дзве значныя вечарыны ў гонар Уладзіслава Галубка правялі сябры Баранавіцкай гарадской арганізацыі, землякі Галубка. Яны ж выдалі каляндарык і плакат да юбілею Ігната Дамейкі. Па ініцыятыве спн. Манюк з Наваградка і пры падтрымцы кіраўніцтва адбылося раённае свята ў в. Бенін, дзе нейкі час жыў Купала. Па ініцыятыве Віцебскай абласной рады выдадзены каляндар у гонар Анатоля Канапелькі, сябра ТБМ, пісьменніка, што заўчасна пакінуў гэты свет. Сябры абласной арганізацыі прынялі актыўны ўдзел ў правядзенні конкурсу "Лепшы рупліўца роднага слова", які праводзіў аблвыканкам. Адбылося святкаванне 10-х угодкаў з дня адкрыцця ў Лідзе помніка Скарыну, пастаўленага па ініцыятыве ТБМ.

У Беларусі шырока адзначаліся падзеі, звязаныя з імем Кастуся Каліноўскага, Язэпа Лёсіка, Максіма Гарэцкага, Наталлі Арсенневай. Так, студэнцкая суполка ў Мазыры перавыдала газету "Мужыцкая праўда". Рэспубліканскай радай быў абвешчаны конкурс "Рупліўца беларушчыны", падтрыманы Згуртаваннем беларусаў у Вялікабрытаніі. Мы атрымалі каля 200 работ з розных куткоў Беларусі. Адбыўся 1 тур конкурсу, па выніках якога атрымалі падпіску на газету "Наша слова" 46 удзельнікаў. У лістападзе конкурс будзе завершаны.

Калі параўнаць правядзенне святкаванняў юбілеяў сёлета з леташнімі, то можна адзначыць, што вырасла актыўнасць нашых сяброў, іх самастойнасць, зацікаўленасць у выніках. А якія вынікі дала гэтая праца? Яшчэ ў пачатку 90-х гадоў шырокая грамадскасць не мела ўяўлення пра многія з гэтых імёнаў, мы называлі нашу "трасянку" піджынам і крэольскай мовай, а што такое "тарашкевіца" і "наркамаўка" ведалі толькі глыбокія філолагі-навукоўцы. Сёння спрэчкі пра "трасянку" дасягнулі старонак уплывовых газет, адрозненне "наркамаўкі" і тарашкевіцы" стараюцца ўведаць не толькі жыхары Беларусі, але і нашы госці, вывучаючы беларускую мову: былы намеснік амбасадара ЗША Джон Кунштадтэр, сённяшні амбасадар ЗША Джордж Крол, аташэ па культуры японскай амбасады Касіна Го і інш. Сёння каляндарыкі з партрэтамі Аляхновіча, Лёсіка, Дамейкі, Ластоўскага – невядомымі дагэтуль асобамі—ужо ляжаць на канцылярскіх сталах нашых чыноўнікаў і выклікаюць у іх своеасаблівае пачуццё гонару за краіну, а таксама за сваю дасведчанасць. Я мяркую, яны ўдзячныя Таварыству за гэты асветніцкі чын, як і сотні іншых людзей Беларусі і замежжа. Як шчаслівы быў філолаг Ханс з Галандыі, калі атрымаў у дарунак каляндарык з партрэтам Браніслава Тарашкевіча, аўтара першай беларускай граматыкі, якую Ханс даследуе.



Леташні год быў адзначаны сістэмай месячнікаў. Найбольшы розгалас атрымаў месячнік "Размаўляем па-беларуску".Гэтаму спрыялі шматлікія публікацыі ў прэсе, тэлесюжэт на 2-гім канале БТ, адмысловая рэклама ў метро і па Менску, выпускі значкоў "Размаўляй са мной па-беларуску".

У кастрычніку мы правялі месячнік "Спяваем па-беларуску". Падчас гэтага была праведзена акцыя перадачы начальнікам беларускіх цягнікоў адмысловай аўдыёкасеты з запісамі беларускіх песень, каб пасажыры мелі магчымасць падчас падарожжа слухаць беларускую музыку. Аднак пасля таго, як перадача касеты праводзілася з удзелам тэлевізійшчыкаў, начальнікам цягнікоў было забаронена прымаць наш дарунак.

У лютым праведзены месячнік "Любім і кахаем па-беларуску". У рамках месячніка праведзеныя ў школах і ВНУ конкурсы "валянцінак", конкурсы "Што і як любілі, каго і як кахалі нашы продкі", "Любоўныя пары у беларускім мастацтве", " Любоў і каханне ў нашым жыцці", прагляд спектакля "Любіць" у Тэатры аднаго актора "Зьніч". Змешчаныя артыкулы на гэтыя тэмы ў нашай прэсе. Асаблівым падалося інтэрвію з амбасадарам Францыі Стэфанам Шмялеўскім, у якім амбасадар вызначаў адрозненні ў каханні па-французску і па-беларуску.

Адметна прайшоў конкурс "Як мы пазнаёміліся", інцыяваны і фінансаваны адным з беларускіх прадпрымальнікаў. Пераможцы конкурсу Яна Мельнікава і Максім Маслаў са Слоніма правялі свой адпачынак на Нарачы.

Адукацыйная праца таксама дала свой плён. Працавалі курсы па вывучэнні беларускай мовы (выкладчыкі Станіслава Філіповіч, Валянціна Раманцэвіч, Людміла Дзіцэвіч). З лістапада курсы па культуры мовы зноў адновяцца. Заняткі будзе весці Людміла Дзіцэвіч.

Былі наладжаныя кантакты з польскім метадычным цэнтрам "Арупэ", які працуе па праграме павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. На пачатку гэтага года прайшоў першы семінар на тэму "Інтэгральная мадэль педагогікі". Выдадзеная кніга метадычных распрацовак настаўнікаў этнашколы ў Сеніцы. Тры настаўнікі з Менска навучаюцца па доўгатэрміновай праграме ў Польшчы. Летам група з 20 настаўнікаў пабывала ў Польшчы на курсах па метадыцы выкладання.

Па просьбе Міністэрства адукацыі мы прынялі актыўны ўдзел ў распрацоўцы Палажэння аб узорнай гарадской беларускамоўнай школе. Многія могуць сказаць, што гэта дарэмная справа, бо беларускамоўная адукацыя звужвае сваю прастору. Аднак, я лічу, што нам трэба прымяняць тактыку " step by step", якой карысталіся многія народы і адраджалі свае нацыянальныя школы. А яшчэ лепш выкарыстоўваць наш беларускі досвед. Наша беларуская школа пачалася з маленькай пачатковай школкі ў 1918 годзе, дзе было некалькі дзесяткаў вучняў.

Плённа працуе семінар "Я магу жыць лепей", ініцыяваны Вячкам Станкевічам. Створаны відэафільм з аднайменнай назвай па праграме семінару (выкладчыкі Антаніна Хатэнка, Валер Мазынскі і Людміла Дзіцэвіч). За два гады праведзена каля 50 семінараў. Слухачы навучыліся здымаць залежнасць, набываць пазітыўныя праграмы жыцця, наладжваць гарманічныя ўзаемаадносіны з уласным "я", авалодалі сістэмай НЛП (нейралінгвістычнае праграмаванне), пазбавіліся дыскамфортных зон. Мы меркавалі закрыць працу семінару, аднак па просьбе слухачоў семінар працягвае працу і набывае ўсё большую папулярнасць.

Адбыліся выязныя прэзентацыі газет "Наша слова" і "Новы час". Алена Анісім, Алег Трусаў, Людміла Дзіцэвіч, Сяржук Кручкоў наведалі Віцебск, Баранавічы, Смілавічы, у Менску - БДУ культуры, Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт, Еўрапейскі гуманітарны універсітэт, педкаледж і інш.

У траўні распачалі працу гістарычныя семінары. Перад зацікаўленымі людзьмі, а сярод іх асабліва шмат моладзі: студэнтаў, аспірантаў — выступілі навукоўцы, палітыкі, пісьменнікі Віталь Скалабан, Уладзімер Арлоў, Вольга Іпатава, Кастусь Тарасаў, Анатоль Кароль, Анатоль Грыцкевіч, Захар Шыбека і інш. Усяго праведзена 40 лекцый. Раздадзена 380 кніг навуковага і мастацкага характару. Праслухала лекцыі каля 600 чалавек. Па просьбе слухачоў заняткі будуць прадоўжаныя.

Вядома, змены ў грамадстве выспяваюць пакрысе. Заўважыць іх можа толькі той, хто чуйна ўглядаецца і ўслухоўваецца. Пра што, напрыклад, гавораць такія факты: французскія фільмы дублююцца на беларускую мову; Германія заключыла дамову на трансляцыю чэмпіянату свету па футболе пры ўмове выкарыстання беларускай мовы; амбасадар ЗША Джордж Крол вывучыў у Белым доме нашу мову і ў аэрапорце вітаў збянтэжаных чыноўнікаў па-беларуску.

Можна падумаць, што нашы заходнія суседзі больш турбуюцца пра нашу мову, чым мы самі. Аднак ведаючы заходнюю этыку, трэба такія з'явы разумець, як вялікую перамогу нас саміх у справе адраджэння мовы, бо ніхто з заходнікаў нічога за нас рабіць не будзе, а толькі дапамагаць. І вось сёння, мы мяркуем, трэба грунтоўна падумаць пра новыя падыходы ў моўнай палітыцы. Трэба канчаткова пакінуць лямант пра тое, што мова гіне і ўсё развальваецца. Гэтая небяспечная псіхалагічная праграма не дае нам рабіць стваральныя крокі, перакідвае нас у пазіцыю " рэаліста", які аналізуе разбурэнне і жаліцца ўсяму свету, не адважваючыся нават марыць пра лепшае. Але гісторыя ведае шмат прыкладаў, калі самая неверагодная ды святая мара заўсёды рабілася рэальнасцю. Вось, напрыклад, ТБМ ужо з 1996 года збірае подпісы за адкрыццё Нацыянальнага універсітэта, сем гадоў выношвае ў галаве гэтую ідэю, стварае навукова-метадычнае забеспячэнне. Сёння настаў спрыяльны момант, каб гэтая мара стала рэальнасцю. Застаецца толькі не прапусціць гэты гістарычны шанец.

І нам трэба думаць, быць упэўненымі, што мова не гіне, а наадварот, трансфармуецца, набывае статус мовы інтэлігенцыі, людзей адукаваных і разумных. А такіх людзей звычайна няшмат. Вось мова наша часова і страчвае традыцыйныя сферы ўжытку—вёска, на жаль, вымірае. Але цяпер ўзрастае роля інтэлігенцыі ў захаванні мовы, развіцці яе.

Адной з нашых задач з'яўляецца выпрацоўка ў нацыі станоўчага стаўлення да мовы. Гэта можна рабіць шляхам актыўнага карыстання мовай, асабліва ў рускамоўным асяродку, шляхам размоў на лінгвістычныя тэмы ў добразычлівым тоне, лагодна і аптымістычна, шляхам падтрымкі трасянкамоўных людзей ва ўпэўненасці здзяйснення пераходу на незасмечаную мову.

Важным таксама з'яўляецца распаўсюджванне нетрадыцыйнай інфармацыі аб гісторыі мовы, яе ролі, стану. З гэтай работай цудоўна спраўляюцца Гуманітарны ліцэй, Беларускі калегіюм, курсы па беларускай мове пры ТБМ, некаторыя газеты і часопісы, у тым ліку і нашыя. Цудоўны праект "Беларусы хутка і разам" агучыў на старонках газеты "Новы час" і даў алгарытм гэтага праекту Пётра Садоўскі, які звярнуў увагу на арганізаванасць структур ТБМ. На сёння менавіта ў шафах ТБМ захоўвацца тая "інвентарызацыя" людзей, якія сёння рэальна будуюць новую Беларусь. Будуюць, бо маюць высакародныя мэты. А высакародныя мэты ёсць палова поспеху.

*Людміла Дзіцэвіч.*

## СТВАРЭННЕ КНІГІ ПРА НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГУМАНІТАРНЫ ЛІЦЭЙ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА . СТАНЕ АДНЫМ З ПРЫЯРЫТЭТАЎ ДЗЕЙНАСЦІ ЛІЦЭІСТАЎ У ГЭТЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДЗЕ

Менск, 10 кастрычніка. Стварэнне кнігі пра Нацыянальны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа стане адной з асноўных спраў ліцэістаў у сёлетнім навучальным годзе. Пра гэта заявіў старшыня вучнёўскага самакіравання Франак Вячорка на II сойме вучнёўскага самакіравання, які прайшоў вечарам 10 кастрычніка ў Менску.

Паводле яго слоў, у ілюстраваным выданні будзе выкладзена ўся гісторыя навучальнай установы, уключаючы падзеі вясны і лета гэтага года, звязаныя з барацьбой калектыву ліцэя за існаванне пасля пастановы ўраду аб ліквідацыі навучальнай установы. У кнізе будуць прадстаўлены ўсе вядомыя асобы, якія далучыліся да заснавання і дзейнасці ліцэя.

Сярод іншых прыярытэтаў у дзейнасці вучнёўскага самакіравання Ф. Вячорка назваў пашырэнне кантактаў з пагодкамі за межамі Беларусі, выпуск чарговага дыска "Я люблю ліцэй — 2". "Мы спадзяёмся, што праблема ліцэя стане здабыткам не толькі грамадска-палітычных выданняў краіны, але і іншых СМІ", — заўважыў Ф. Вячорка.

У інтэрвію БелаПАН навучэнец IV курса Глеб Лабадзенка зазначыў, што асноўнымі надзёнымі праблемамі ліцэістаў з'яўляюцца недахоп падручнікаў і штодзённыя зносіны, а таксама халоднае надвор'е. "Але нашы настаўнікі — людзі мудрыя. І яны ўсё зрабілі для таго, каб увесь дзень мы займаліся ў адным памяшканні і не губляді час на пераезды па горадзе", — сказаў вучань. На яго думку, ва ўмовах, "калі на ліцэй глядзіць увесь свет, галоўную ўвагу мы павінны надаць вучобе". Разам з тым, паводле слоў Г. Лабадзенкі, ліцэісты цяпер фізічна раз'яднаныя, бо групы раскіданы па розных памяшканнях Менска. "А для нашай творчай ліцэйскай сям'і важна пастаянна збірацца для сумеснага адпачынку і наведвання гістарычных месцаў Беларусі. Апрача таго, немалаважна пастаянна друкавацца ў газетах і браць удзел у розных конкурсах. Мы павінны паказваць усяму грамадству, што ліцэй жыве, нягледзячы ні на што", — сказаў Г. Лабадзенка.

Гаворачы аб пытанні здачы экзаменаў экстэрнам, Г.Лабадзенка заўважыў, што тут могуць быць два варыянты — "або нас не дапусцяць да іх, або наладзяць публічную "лупцоўку".

*Марат ГАРАВЫ,*
*БелаПАН.*

## МІНКУЛЬТУРЫ ПЛАНУЕ ПРАВЯДЗЕННЕ ТРЭЦЯГА ЭТАПА КОНКУРСУ НА СТВАРЭННЕ НАДМАГІЛЬНАГА ПОМНІКА МУЛЯВІНУ

Міністэрства культуры плануе правядзенне трэцяга этапа адкрытага конкурсу на стварэнне надмагільнага помніка народнаму артысту СССР, мастацкаму кіраўніку ансамбля "Песняры" Уладзіміру Мулявіну. Аб гэтым БелаПАН паведаміў галоўны спецыяліст упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Мікалай Скварцоў.

Паводле яго слоў, журы конкурсу, падводзячы вынікі другога этапа, у якім удзельнічалі 24 чалавекі, "прыйшло да высновы, што неабходны працяг". "Задачы, што стаялі перад аўтарамі надмагільнага помніка, не выкананыя, — сказаў ён. — У ніводнай з работ журы не знайшло ідэі духу Мулявіна, у асноўным былі прадстаўлены эскізы свецкіх помнікаў". Паводле слоў галоўнага спецыяліста ўпраўлення мастацтва, асноўная праблема заключаецца ў тым, што "многія людзі не разумеюць значэння Мулявіна ў кантэксце нашай культуры".

М.Скварцоў зазначыў, што ідэя правядзення конкурсу унікальная, паколькі конкурсы па стварэнні надмагільных помнікаў у Беларусі яшчэ не праводзіліся. Раней былі мэтавыя заказы, падкрэсліў ён.

Вынікі трэцяга этапа плануецца падвесці напрыканцы года.

*Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ,*
*БелаПАН.*

# Каб жыла Беларусь

Алесь Белакоз

КАБ ЖЫЛА БЕЛАРУСЬ

Успаміны • Артыкулы • Інтэрв'ю

У выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшла кніга сябра ТБМ, нястомнага змагара за беларускую мову, дырэктара Гудзевіцкага музея Алеся Белакоза "Каб жыла Беларусь. Успаміны. Артыкулы. Інтэрв'ю". Наклад кнігі ўсяго 200 асобнікаў, пачытаць яе ўдасца нямногім. Прывядзём невялічкі адрывачак з нататкі "Адзіны ў свеце беларускі глобус".

"... Аднойчы дзядзька Янка перадаў нам глобус з Віленскай беларускай гімназіі. Я дакранаюся да яго, як да святыні: яго трымалі ў руках выкладчыкі і вучні Віленскай беларускай гімназіі, а яны амаль усе былі шчырымі беларускімі патрыётамі, многія з іх аддалі жыццё за Беларусь, многія адмучыліся ў савецкіх лагерах, многія знішчаны ў Курапатах...

...Сёння гэта адзіны беларускі глобус ва ўсім свеце. Хоць нязвычна, але так прыемна чытаць на глобусе беларускія тапонімы і гідратапонімы: Паўднёва-Кітайскае мора, Менск, Антыльскія астравы...

,,,У ніжняй частцы глобуса, паміж 50-ц і 60-й паралелямі паўднёвай шырыні змешчаны эліпсападобны штамп з тэкстам: *"ГУГК (Государственное управление географического Комитета при СНК СССР, Картографическая фабрика, Ленинград, ул...* (назва вуліцы нечытэльная). Зверху эліпса напісана: *"Белорусский язык"*, а знізу дата: *"30.VII.1939 г., тираж 3000"*.

Мяне вельмі зацікавіла дата выпуску. Праз месяц пачнецца польска-нямецкая вайна, праз паўтара месяцы Савецкі Саюз далучыць Заходнюю Беларусь да Усходняй. Немагчыма далучыць некалькі мільёнаў беларусаў і не даць ім у школы беларускіх мапаў, глобусаў, падручнікаў. Відаць гэта было першае і апошняе выданне беларускіх глобусаў у Савецкім Саюзе.

У час вайны ўсе гэтыя глобусы знішчыліся: школы гарэлі, разрабоўваліся, перавозіліся з месца на месца. У кожную школу такі глобус не трапляў...

...Калі ў 80-х гадах XX стагоддзя ў Гудзевіцкі музей прыязджаў Старшыня Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР Георгі Таразевіч, я ў яго запытаўся:

- Як здарылася, што ў Беларусі ёсць толькі адзін глобус на беларускай мове, глобус з Віленскай беларускай гімназіі - экспанат Гудзевіцкага музея? Як можа існаваць Беларусь без беларускіх школ, без беларускіх падручнікаў, без беларускіх глобусаў?

Таразевіч тады адказаў:

- Я пра гэта не ведаў. Беларускія глобусы будуць..."

У кнізе на 102 старонках шмат іншых цікавых нататак і замалёвак. Нажаль, знайсці яе сёння можна, мабыць, толькі ў Гудзевічах.

*Яраслаў Грынкевіч.*

Беларуская мова - ТБМ - наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

1. Казлоўская Іна, Менск - 1400 руб.
2. Антух Мікола, Аўстралія - 100 дол.
3. Лягенчанка Слава, Аўстралія - 50 дол.
4. Фурс Антон, Паставы - 5000 руб.
5. Русак Андрэй, Менск - 1000 руб.
6. Лыч Леанід, Менск - 5000 руб.

Таварыства беларускай мовы пры падрыхтоўцы да чарговага VIII з'езду панесла вялікія выдаткі і займела запазычанасці. Просім сяброў ТБМ па меры магчымасці падтрымаць арганізацыю ў гэтых умовах.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца***
***23, 29 і 30 кастрычніка ў 18.00***
***у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**23 кастрычніка.** "Менск у часы сталінскіх рэпрэсіяў" - пісьменнік **Кастусь Тарасаў.**

**29 і 30 кастрычніка.** "Менскія ваколіцы" - доктар гістарычных навук, прафесар **Анатоль Грыцкевіч.**

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Касір
Плацельшчык

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015212330014 Асабовы рахунак 764
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | |
| | | Пеня | |
| | | Разам | |

Квітанцыя
Касір М.П.
Плацельшчык

### Адказы на крыжаванку на ст. 12.

**Па гарызанталях:** 1. Залога. 3. Крыжык. 6. Кат. 8. Прага. 9. Уздым. 11. Лязо. 12. Цэбар. 13. Зрок. 16. Байка. 17. Крыга. 19 Гуз. 21. Зарана. 23. Гальмо. 27. Кава. 28. Рокаш 29. Ляна. 32. Рубон. 33. Нырка. 34. Яры. 35. Адмена. 36. Дзякуй.

**Па вертыкалях:** 1. Завала. 2. Гмах. 4. Рада. 5. Клямка. 6. Карэц. 7. Тупат. 8. Позва 10. Мурог. 14. Склад. 15. Краля. 16. Бэз. 18. Або. 19. Гародня. 20. Зграбны. 22. Адвар 24 Млява. 25. Скруха. 26. Шахрай. 30. Збан. 31. Друз.

*Навінкі беларускай фанаграфіі*

## "Крыві" бываюць розныя

**"Крыві" – "Усе лугі", Мн., 2002, Belpunkt**

Цікава, што сапраўдная каштоўнасць гэтага сінгла, выдадзенага гады за паўтары перад выхадам славутага альбома "Minsk-Berlin", пакрысе выкрышталізоўвацца толькі цяпер. Рэч у тым, што паміж двума рэлізамі – кардынальны раскол у гурце "Kriwi", выкліканы адыходам Зміцера Вайцюшковіча, аднаго з заснавальнікаў Альбома прыхільнікі чакалі так доўга, што ледзь было ўжо не змірыліся з думкай аб адыходзе ўлюбёнай каманды ў аналы гісторый. І ўсё ж "Kriwi" выжылі, альбом "Minsk-Berlin" не проста пацешыў настальгічных ўспамінаў аб легендарным шляху, а і выявіў некранутыя пласты творчага ворыва: пластычны драматызм голасу Веранікі Кругловай (у дэбютным "Hej, Loli", 1996, дый у славутым "За туманам", 1998, ён быў яшчэ ў цені каларытнага амплуа Зміцера Вайцюшкевіча), разнастайнасць выканаўчай манеры гітарыста Піта Паўлава (у 1998-м ён толькі падэнэрэміў, падвырaзніў worldmusic гучанне альбома "За туманам", а тут сталася, што віртуозна валодае і акустыкай ды нават трапнай нацыянальнай гуморай).

Але, якім коштам гэта дасягнута? За пяцігодку чакання фэны Вайцюшковіча знайшлі свайго куміра ў "Minsk-Berlin" толькі на бэквакалах, хоць да 2002 –га ён яшчэ працаваў у складзе "Kriwi". А вынік дзе?

Вось тут і прыгадвaецца той унікальны чорны сінія з рэпрадукцыямі рунічных паганскіх петрогліфаў на вокладцы.

Песні з лідарным вакалам Веранікі Кругловай (беларуская "Сяму-таму", курдская "Nerem-nerem", курдска-беларуская "У цябе, у мяне") потым увайшлі ў альбом "Minsk-Berlin", а вось знакамітая Вайцюшковіцкая апрацоўка беларускага фальклору "Усе лугі" не выходзіла ні на альбомах "Kriwi", ні на сольніках артыста, а захавалася толькі тут:

*"Усе лугі, усе лугі, усе сенажаці...*
*Пытаецца сын у мамкі, каторую браці.*
*"Бяры сынку, бяры сынку, бяры багатырку:*
*Багатырка багатая – валы ды каровы,*
*А ў дзяўчынкі-сіротачкі толькі чорны бровы,*
*Дзяўчыначкі-сіротачкі нічога ня маюць..."*

Карацей кажучы запальны сюжэт пра тое, што сіротачкы ўсё адно даввядзецца пасвіць чужых кароў і тады... Якая прастора для будучых выдаўцоў спадчыны "Kriwi": надумаеце перавыдаваць раннія альбомы гурта, маеце бліскучы хіт для бонуса.

Зрэшты, на сінгле не адзін такі сюрпрыз: усе, бадай, добра памятаюць каларытную песеньку "Свякроў" з альбома "За туманам", але ці ўсе ведаюць, як гэтую песню апрацавала ў Берліне артыстка аднаго з лонданскіх клубаў Diane Delta. Вось акурат ейны унікальны трэк "Швагермутэр" (Die Schwiergermutter") і стаў добрым дадаткам праграмы гэтага сінгла.

Нельга не сказаць пару слоў і пра мастацкую аздобу выдання. Ёю займаўся дызайнер Карзун (не блытаць з Віктарам Корзунам, які аздабляў альбом "Люстэрка" гурта "Уліс"). Канцэптуальна ў гэтай працы на Ігара моцна паўплываў ягоны сваяк гісторык Сяргей Прохараў, захоплены даследаваннямі беларускага камнепісу (петраграфіяй). Вось акурат рунічныя знакі з найбольш знакамітых нашых валуноў і склалі аснову дызайну дыска. Ігар Корзун расказвае, што недасведчаныя людзі схільныя адносіць такую сімволіку да скандынаўскіх традыцыяў, але хіба толькі пад уплывам акупацыйнай ідэалогіі не здольныя прызнаць адметнасць нашага культурнага шляху з глыбокай старажытнасці.

Акрамя ўсіх сваіх вартасцяў гэты дыск прывабны для калекцыянераў і сваім арыгінальным паліграфічным увасабленнем.

*Вітаўт* **МАРТЫНЕНКА.**

## У ГОМЕЛІ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ДЫСКА ВЫБРАНЫХ ТВОРАЎ СПЯВАЧКІ ВАЛЬЖЫНЫ ЦЯРЭШЧАНКІ

10 кастрычніка ў Гомельскім гарадскім цэнтры культуры адбылася прэзентацыя дыска выбраных твораў і канцэрт спявачкі Вальжыны Цярэшчанкі. Сярод іх песні на вершы беларускіх паэтаў Алеся Гаруна, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Жылкі, Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Сыса, Яна Чачота. Таксама на дыску ёсць калядны цыкл і песні, выкананыя разам з гомельскім бардам Змітром Вінаградавым.

Вальжына Цярэшчанка — вядомы беларускі бард, лаўрэат першага фестывалю аўтарскай песні, удзельніца фестывалю аўтарскай песні "Miensk-1996" і фестывалю беларускай музыкі "Басовішча" ў Польшчы. Цяпер Вальжына выкладае музыку і спевы ў Гомельскай беларуска-славянскай гімназіі імя І. Мележа.

*Алена* **КАЛАЧОВА,** *БелаПАН.*

## *Ліцэйскі тэатр на сцэне!*

*Ліцэйскі тэатр існуе ўжо 5 год. Ва ўсіх сваіх пастаноўках ён паказваў найвышэйшы ўзровень і прафесіяналізм акцёраў. Пастаноўкамі (а іх каля 10) кіравалі розныя людзі, у тым ліку і Уладзімір Колас – дырэктар ліцэя. Ліцэйскі тэатр прымаў удзел у Фестывалях франкафонных тэатраў, дзе атрымліваў самыя высокія ацэнкі. Самым значным і гучным ліцэйскім праектам стаў "Народны альбом" – мюзыкл-п'еса на аднайменную кружэлку.*

*Апошні ж год ліцэісты разам з Сяргеем Патаранскім займаліся пастаноўкай купалаўскай "Паўлінкі". Пад кіраўніцтвам рэжысёра "Паўлінка" набыла складаны псіхалагічны характар, песімістычны канец з прысмакам сучаснасці. Два разы "Паўлінка" ўжо з'яўлялася на сцэне, гэта было яшчэ ў ліцэйскіх мурах па Кірава, 21. У хуткім часе абдудзецца першая прэм'ера спектакля пасля трагічных падзеяў з ліцэем.*

***19 кастрычніка** на Ўправе БНФ, а 17.00, на вечарыне, прымеркаванай 15 угодкам Фронту.*

***4 лістапада** – у музеі імя Янкі Купалы, а 15.00, на вечарыне, прымеркаванай да ўгодкаў Паўліны Мядзёлкі – першай выканаўцы ролі Паўлінкі.*

## АФІША

**Тэатральная студыя НГЛ імя Якуба Коласа "ПАЎЛІНКА"**

*сцэнічныя фантазіі паводле п'есы Янкі Купалы*

*Пастаноўка:* ***Сяргей Патаранскі***
*Гукарэжысёр:* ***Наста Варачаева***
*Паўлінка:* ***Любоў Аношка***
*Яўхім Сарока:* ***Франак Вячорка***
*Адольф Быкоўскі:* ***Павал Супаненка***
*Альжбэта Крыніцкая:* ***Ксенія Гаеўская***
*Сцяпан Крыніцкі:* ***Яўген Воўк***
*Агата Пустарэвіч:* ***Тацяна Сяцко***
*Пустарэвіч:* ***Макс Русць***
*Цыганка:* ***Наста Варачаева***
*Янка Купала:* ***Сяргей Патаранскі***

## У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА ЖЫВАПІСУ, ПРЫСВЕЧАНАЯ 75-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАГА МАСТАКА БЕЛАРУСІ ГАЎРЫЛЫ ВАШЧАНКІ

Вечарам 10 кастрычніка ў Менску, у Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава жывапісу, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння народнага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі.

На ёй прадстаўлена 76 палотнаў майстра, сярод якіх пейзажы і партрэты, падзеі і асобы нацыянальнай гісторыі — "Канстанцін Астрожскі", "Леў Сапега" і "Чорная быль", а таксама міфалагічныя і сімволіка-алегарычныя творы (сярод іх — "Легенды Нясвіжа", "Попел купальскага вогнішча" і "Знічка").

Выступаючы на адкрыцці выставы, першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка зазначыў, што "работы патрыярха сучаснага айчыннага жывапісу вызначаюцца выдатным густам, сапраўднай інтэлігентнасцю, спакоем і болем з таго моманту, калі мастак фізічна ўжо не можа вярнуцца на радзіму сваіх продкаў. *(Г. Вашчанка нарадзіўся ў вёсцы Чыкалавічы Брагінскага раёна Гомельскай вобласці, якая пацярпела ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы — БелаПАН.).* Аднак думкамі і пачуццямі майстар пастаянна вяртаецца ў край свайго дзяцінства".

Старшыня Гомельскага аблвыканкаму Аляксандр Якабсон выказаў удзячнасць мастаку за "глыбокі след, які ён пакінуў у гісторыі нацыянальнага мастацтва", а таксама за калекцыю твораў, падараваных жыхарам горада.

Рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі заўважыў, што створаная ў Гомелі Карцінная галярэя Гаўрылы Вашчанкі "навекі стала беларускім цудам свету".

Старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Басалыга заявіў, што майстар пражыў па-сапраўднаму шчаслівае жыццё, бо "ён ніколі не здраджваў мастацтву, якім заўсёды служыў Айчыне і беларускаму народу". Паводле слоў У. Басалыгі, творчасць мастака, заснаваная "на штодзённай натхнёнай працы, уяўляе сабою стрыжневую з'яву нацыянальнай культуры".

Народны мастак Беларусі Васіль Шарангавіч падкрэсліў, што майстар стварыў уласную школу выўленчага мастацтва, а "яго творчасць складае славу беларускай культуры". "Імя Гаўрылы Вашчанкі стаіць у адным шэрагу з імёнамі Васіля Быкава і Ніла Гілевіча", — сказаў В. Шарангавіч.

*Марат* **ГАРАВЫ,** *БелаПАН.*

## 225 гадоў з дня народзінаў Марціна Пачобута-Адляніцкага

У паэме "Пан Тадэвуш" Адам Міцкевіч прысвяціў вялікі ўрывак астраноміі і ўзгадаў імя выдатнага беларускага вучонага Марціна Пачобута-Адляніцкага У XVIII – пачатку XIX ст. астраноміяй цікавіліся многія. А Віленская абсерваторыя, дзякуючы Марціну Пачобуту, набыла сусветную вядомасць.



М. Пачобут-Адляніцкі.

Будучы вялікі вучоны нарадзіўся ў 1728 г. у в. Саламянка, непадалёку ад Горадні ў небагатай шляхецкай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Гарадзенскай езуіцкай школе, потым вучыўся ў Віленскай езуіцкай акадэміі. Пасля стажыроўкі ў Францыі маладога вучонага захапіла астраномія. На радзіму ён вяртаўся з марай зрабіць Віленскую абсерваторыю адной з лепшых у Еўропе. І праз некалькі гадоў тытанічнай працы ажыццявіў яе.

А ў 1780 г. М. Пачобута-Адляніцкага прызначаюць рэктарам Віленскай акадэміі. Гэтую адказную пасаду ён будзе займаць дзевятнаццаць гадоў. Як вядома, у той час Акадэмія мела статус галоўнай школы ВКЛ. Абсалютную большасць яе студэнтаў складалі выхадцы з Беларусі. Рэктар клапаціўся, каб маглі атрымаць адукацыю юнакі з бедных сем'яў. Яму даводзілася разрывацца паміж рэктарскімі клопатамі і любімай навукай – астраноміяй. Вынікі яго навуковых доследаў сабраны ў некалькіх дзесятках тамоў. Яго працы друкавалі часопісы многіх еўрапейскіх краін. Асаблівую цікавасць выклікалі праведзеныя ім назіранні за Меркурыем. Ён вызначыў каардынаты шэрагу населеных пунктаў Беларусі, Літвы, Украіны. Нават у апошнія гады жыцця, маючы 80 гадоў і дрэннае здароўе, ён працягваў працу ў сваёй абсерваторыі...

*Людміла Трэпет.*



Пастаянным удзельнікам рэспубліканскіх фестываляў і святаў у Беларусі з'яўляецца народны хор з Пружан "Вербніца" пад кіраўніцтвам Івана Іванавіча Гвоздзіка. Артыстаў у непаўторных самабытных строях з цудоўна падабраным рэпертуарам заўсёды цёпла сустракаюць жыхары гарадоў і сёлаў нашай краіны. Са сваёй творчасцю хор знаёміць слухачоў і ў суседняй Польшчы.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**




# УСПАМІНЫ МІХАІЛА ШВЭДЗЮКА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Бедныя, перапалоханыя і ў паніцы маці, сёстры і брат, вочы залітыя слязьмі, не ведалі што браць, што пакаваць, харч ці бялізну і колькі. Бо тады ніхто не ведаў ці гэты арышт быў часовы, ці даўжэйшы, ці вечны. Не ведалі яны тако ж куды іх павязуць. А НКВД-зісты падганялі іх каб збіралі харчы і рэчы хутчэй, хутчэй г. зн. “собирайтесь побыстрее, побыстрее…”

Дзеля справядлівасці і аб'ектыўнасці трэба тут успамянуць, што сярод НКВД-зістаў былі людзі добразычлівыя. Калі нашую сям'ю арыштавалі, адзін энкавадзіст паціху казаў маёй маці, каб забірала ўсё, бо там вам “усё прыдасца”. Мала гэтага, ён, аглядаючыся на сваіх начальнікаў, нават дапамагаў пакаваць рэчы.

Аднак напакавалі толькі трохі бялізны, харчоў, гаршчкоў. Потым быў дадзены загад пакінуць дом і ісці да падводаў, што чакалі на дварэ. А на вуліцы забачылі яны на санках дзве сям'і леснікоў з Патапавіч. Гэта былі Кананчукі.

У гэты трагічны і нясчасны дзень бальшавікі арыштавалі 18 асоб, а павезлі далей 17. Адну асобу, маю бабку Наталлю, пакуль пакінулі; пра яе лёс напішу больш падрабязна далей.

Канвой з арыштаванымі людзьмі, без следства, без ніякіх абвінавачванняў, без суда, пацягнуўся праз раку Піну на ўсход, у бок Пінска. Везлі іх праз вёскі Ячкавічы (адкуль была родам мая маці Марыя), Еўлашы да вёскі Дубое. У Дубое завезлі іх да былой сельскагаспадарчай школы. Там пераначавалі.

Пра арышт нашай сям'і і перавозку аж да вёскі Дубое я апісаў паводле таго, што мне расказалі мае бацькі, брат і сёстры. Ды пра гэты арышт гутарылі часта, гадамі.

### ШТО БЫЛО СА МНОЮ?

Восенню 1939 года я паступіў вучыцца да гімназіі ў Пінску. З нашай вёскі ў гімназіі быў яшчэ адзін хлапец - Іван Снарскі. Іван і я, мы жылі разам на кватэры ў габрэйскай сям'і на вуліцы Стараганчарскай. Гэтыя габрэі жылі вельмі бедна, але былі добрымі людзьмі.

Заняткі ў гімназіі вяліся на рускай мове. Нам, выпускнікам з польскіх пачатковых школаў, не ўсё было лёгкае, не ўсё было зразумелае, а перадусім матэматыка з яе рознымі тэрмінамі і “естествознание” тако ж са сваімі асаблівымі словамі. Але мы давалі рады.

Ад часу да часу, пасля заняткаў, я ездзіў да Патапавіч да бацькоў у суботу, а вяртаўся назад да Пінска ў нядзелю.

Субота 10.02.1940 года не была днём, у які я меў намер ехаць да Патапавіч. Але, пасля заняткаў у гімназіі, мне штось карцела, я быў неспакойны, я не чуўся вясёлым, каб пайсці пагуляць па горадзе. Сказаў свайму сябру Івану, што я пастанавіў ехаць додому. Ужо вечарам, калі было цёмна, я пайшоў да паблізкай чыгуначнай станцыі. Мы, студэнты, мелі бясплатны праезд.

На станцыі поўна людзей, старых, маладых, дзяцей. Людзі з валізкамі пакупкамі, гавораць на розных мовах. Прыехаў цягнік. Цягнік перапоўнены. Але мне неяк удалося ўлезці ў вагон. Цягнік рушыў на захад, хутка даехалі да станцыі Юхнавічы, дзе я высеў. З Юхнавіч да Патапавіч прыблізна 10 км.

Ужо была поўнач. На дварэ страшэнны мароз. У небе поўна зорак. Каб хутчэй дайсці дадому, я кіруюся цераз лес да вёскі Ячкавічы. Іду каля дома нашых блізкіх крэўных. Там усе спяць, дык я да іх не заходжу. Іду далей, цераз замёрзшую раку Піну, даходжу да Патапавіч, да нашага дома.

У хаце, як і трэба было спадзявацца ў такую познюю ноч, было цёмна. Стукаю ў дзверы. Ніхто не адзываецца. Я падумаў, што яны не адчыняюць дзвярэй дзеля таго, што не ведалі, хто стукае ў дзверы, проста яны баяліся. Я тады стукаю ў дзверы яшчэ і галасней і крычу: “Бацька, маці, гэта я – Міша”. І зноў ніхо не адгукнуўся. Са страху я амаль не абмлеў. Не ведаў што рабіць, куды ісці, каго пытацца.

І тут да галавы прыйшлі страшэнныя думкі аб тым, як у 1939 годзе, падчас бясправя, людзі зніка лі, людзей забівалі. Падумаў, што штось трагічнага сталася і з нашай сям'ёй.

Недалёка ад нас у вёсцы жыла мая цётка Марта, сястра майго бацькі. Накіраваўся да яе. Падходжу да яе дома. У хаце гарыць газавая лямпка. Чую, што ў доме плачуць. Я так перапалохаўся, што не ведаў, што рабіць далей, ці ісці да цёткі да хаты ці ўцякаць. А ў міжчасе сэрца ўжо не біла а бухала. Пачаў валіцца свет пад маімі дрыжачымі нагамі. Уся надзея аб навуцы, аб прышласці хутка прапала. Я тако ж заплакаў.... Але, усё-такі пастанавіў увайсці да хаты.

У хаце забачыў на пасцелі хворую бабку Наталлю. Усе плачуць. І з-за слёзаў не могуць расказаць мне, што сталася з бацькамі, дзедам, сёстрамі і братам. Але ў канцы расказалі. Я аддыхнуў, бо дазнаўся, што яны ёсць жывымі.

Але што рабіць мне, трынаццацігадоваму хлопчыку? Куды падзецца і на як доўга? У галаве раптам паўстала многа пытанняў, на якія цяжка было знайсці задавальняльныя адказы.

Цётка Марта сказала, што калі я хачу, дык магу заставацца жыць разам з імі. Тое, што яны маюць, будзе і для мяне.

Падзякаў цётцы за прапанову. Сказаў ёй, што я, аднак, хачу забачыцца з бацькамі, параіцца, быць можа, развітацца.

У нядзелю 11.02. 1940 года, вельмі рана, развітаўся з бабкай, цёткай і ейнай сям'ёй. Сам адзін пайшоў пяшком да вёскі Дубое (12 км. ад Патапавіч). Даходжу да школы, куды завезлі арыштаваных людзей.

Школа аказалася акружана ўзброенымі НКВД – зістамі, якія без пропуску нікога туды не ўпускалі. Мяне тако ж адразу не пусцілі да гэтай школы. Я ім (НКВД) расказаў, хто я такі, паказаў сваё “удостоверение” са здымкам. Адышлі. Потым вярнуліся і мяне прапусцілі. Напэўна спраўдзілі аркуш, каго мелі арыштаваць і на якім быў тако ж і я.

Ужо па вайне мы дазналіся, НКВД-зісты прыходзілі да дома ў Пінску, дзе я жыў і пыталіся, “куды я падзеўся”.

І так закончылася мая “свабода”, калі можна назваць “свабодай” жыццё ў дыктатарскай дзяржаве з сатанінскім бясправем.

### УЖО ЗНОЎ РАЗАМ

Заходжу да школы. Знайшоў нашу радню. З плачам і слязамі ўцешыліся яны, што я да іх далучыўся. Я тако ж уцешыўся, што я разам з імі. Расказалі мне, як іх арыштавалі, хоць я ўжо пра гэта ведаў ад цёткі Марты. Я расказаў ім аб сябе, як да іх прыехаў.

А ў гэтай школе поўна арыштаваных людзей з розных акалічных вёсак. Паветра цяжкае, няма чым дыхаць. Забачыў нашых аднавяскоўцаў з Патапавіч, семьі Кананчукоў. А там бесперапынна людзі плачуць, галосяць, енчаць, як у Дантаўскім пекле. Дзеці плачуць з голаду, холаду, нявыспаныя і парамучаныя. Пажылыя плачуць, бо не ведаюць ці дажывуць да наступнага дня і чым гэта ўсё кончыцца. Падлеткі плачуць, бо бачаць, што іх бацькі плачуць і галосяць, як па нябожчыках. Цяжка і балюча апісаць усё тое, што тады адбывалася ў школе у Дубаях.

Масавыя вывазкі нявінных людзей называюць цяпер “этнічнай чысткай”. Бо сапраўды, была гэта “нацыянальная чыстка, г. зн. карэннае і аўтахтоннае насельніцтва Беларусі і Украіны вывозілася ў глыб Расеі. І вывозілі цэлымі сем'ям,і каб нават карэнні не засталіся. У гэтым бальшавікі былі “первыми”, бо нават за царскімі часамі ўрад вывозіў на катаргу злачынцаў, бунтаўнікоў, паўстанцаў і д. п., але не цэлыя сем'і, ды яшчэ без абвінавачванняў, без суда.

11.02.1940 г. ў нядзелю, вязуць нас усіх пад строгім надзорам НКВД, да Пінска. Ў Пінску завезлі да чыгуначнай станцыі дзе чакалі на нас таварныя вагоны. Ўкінулі нас да іх. Вагон закрылі, зарэглявалі.

У нашым вагоне было шэсць сем'яў, разам 29 асобаў. Нас, Швэдзюкоў, было восем асоб. У адной сям'і Канчукоў было шэсць асоб а ў другой сям'і было чатыры асобы. У сям'і Ціпун – чатыры асобы. У сям'і Шток (асаднік) было чатыры асобы. І нарэшце сям'я Шчука складалася з трох асоб.

Першыя чатыры сям'і (22 асобы) былі беларусамі, а астатнія дзве сем'і (7 асоб) былі палякамі. Адпаведна 76% і 24%.

У вагоне былі двухярусныя, голыя, драўляныя нары. Маленькія вокны былі закратаваныя. Пасярэдзіне вагона стаяла печка (цяплушка) і трохі вугалю. У падлозе каля дзвярэй была дзірка для асабістых патрэб... Найбольш з гэтага цярпелі, аж да хвароб, кабеты і дзяўчаты.

У вагоне холад, цяжкае паветра, няма чым дыхаць, людзі кашляюць без канца. А да гэтага бесперапынны плач, енкі. Людзі галодныя, а губы і горла сухія ад адсутнасці вады.

Цераз краты відно было людзей, якія пазіралі на вагоны, але да якіх баяліся пдыйсці. Ад часу да часу чуць было спевы чырвонаармейцаў; спявалі “...вставай проклятьем заклемённый...”, альбо жаласную “Катюшу”. Чуць было тако ж як спявалі “...Я другой такой страны не знаю, где так вольна дышыт чалавек...” Гэтыя астатнія словы былі для нас, арыштаваных і сядзячых за кратамі, соллю на раны. Гэта быў цынізм вышэйшай ступені.

А цэлы час, у дзень і ў начы, прывозяць новых людзей, пакуюць да вагонаў. Як скамплектавалі цягнік, дык пацягнулі яго на ўсход, у няведамую даль. Едзем цераз Лунінец, Мікашэвічы. Даязджаем да Жыткавіч, дзе цягнік спыніўся, далёка ад станцыі. Усё гэта рабілася з мэтаю, каб людзі не бачылі закратаваных вагонаў з людзьмі; камуністы не хацелі, каб людзі ведалі пра іхнія беззаконні, іхнюю нялюдскасць.

У Жыткавічах адчынілі дзверы вагонаў і дазволілі найперш кабетам, а потым нам выйсці з вагонаў, пад строгім наглядам НКВД, дзеля асабістых патрэбаў. Пры нагодзе мы набралі многа снегу, які потым тапілі на ваду.

З Жыткавіч паехалі цераз Калінкавічы, Рэчыцу аж да Гомеля. У Гомелі зноў затрымаліся далёка ад чыгуначнай станцыі. Тут, жа першы раз далі нам некалькі вёдраў супу і трохі хлеба. Дасталі тако ж і трохі вады. А потым па дарозе давалі ад часу да часу вугаль, хлеб і суп, пераважна “лапшу” і “щи”.

І так вязуць нас і вязуць, днямі і начамі. А мы цэлы час думаем і пытаемся наіўна адзін другога “куды”, “як яшчэ доўга”, “які будзе канец гэтага” і д. п. Ад часу да часу цягнік затрымліваецца пераважна далёка ад вялікіх гарадоў, ад станцый.

З Гомеля едзем на ўсход. Цераз краты заўважылі што мінаем Бранск. З Бранска даехалі да Масквы. З Масквы цягнік накіроўваецца на поўнач. Мы здзівіліся, але трохі і аддыхнулі: значыць нас не вязуць на сумна-вядомы Сібір. Даехалі да Яраслаўля з яго многімі царкоўнымі купаламі. З Яраслаўля едзем да Волагды. З Волагды вязуць нас на поўнач, у бок Архангельска.

А цэлы час у нас былі клопаты з “цяплушкамі”. На цяплушцы трохі варылі, што хто меў. Але не было дратоў, каб прывязаць гаршкі да бляшанага гарачага коміна. І калі цягнік рушыць, ці затрымаецца, ці раптам затармозіцца, дык вагон затрасецца і гарачыя гаршкі з вадой ці ядой падаюць на падлогу і разбіваюцца; часам ад гэтага людзі парыліся. Акрамя гэтага была яшчэ адна бяда. У нашым вагоне было аж шэсць сем'яў. А на малой пліце на цяплушцы можна было паставіць толькі адзін гаршчок. Дык зразумела, што, часам, з прыгатваннем ці варэннем яды трэба было чакаць на сваю “калейку” цэлы дзень.

Па дарозе, якая цягнулася 13 дзён, многа людзей захварэла, людзі ўміралі. Хворых забіралі да бальніц, а пасля вылечвання адсылалі іх да пасёлкаў дзе размясцілі іх родных.

Пасля Волагды пачалі адчэпліваць вагоны. А мы едзем далей, цераз Конашу, Няндому, Плясецк да станцыі Емцы. На гэтай чыгуначнай станцыі адчапілі многа вагонаў разам з нашым. Прычапілі іншы паравоз і павезлі нас улева (на захад ад станцыі). Мы доўга не ехалі. Сярод дрымучых лясоў цягнік затрымаўся за 10 км ад Емцаў зноў адчапілі вагоны, разам з нашым вагонам. Загадалі нам пакінуць вагоны. А тут жа чакалі на нас падводы, якія завезлі нас да блізка паложанага пасёлка (лагера). Падзялілі нас па бараках. Нашай сям'і з 8 душ далі адзін маленькі пакойчык. Гэта была пятніца, 23-га лютага, 1940 г.

І так закончыўся першы этап трагічных падзеяў якія пачаліся арыштам нашай сям'і 10 лютага, 1940 года.




**Пачатак шляху сям'і Швэдзюкоў па тэрыторыі Беларусі**

Дзеля паўнаты даю поўны адрас нашага пасёлка-лагера: ***Архангельская вобласць, Плясецкі раён, станцыя Емца, 10 квартал.***

*(Працяг ў наступным нумары.)*

Мікола Котаў

# НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ

***Для любога ўзросту, танцавальныя, жартоўныя, рухомыя, сядзячы, стоячы, масавыя і ціхія, для любой вечарыны, абрадавага свята, вяселля, юбілею, на свежым паветры: на вуліцы, плошчы, лузе, на вадзе і ў любых памяшканнях***

*Хто ўмее весяліцца,*
*той гора не баіцца.*
*Хто гуляе, той здаровым бывае.*
*Без штаноў застанешся,*
*калі ў азартныя гульні завядзешся.*
*Гуляй, гуляй, ды розум май.*
*Той, хто толькі гуляе, грошай не мае.*
*Трэба добра працаваць,*
*тады можна і гуляць.*
*Гуляй, мой народзе,*
*у вялікім карагодзе.*
*Гуляй ды галаву не губляй.*
*Патанцуем, пагуляем,*
*свята на душы пазнаем.*

## ЗАЯЦ - МЕСЯЦ

Усе становяцца ў круг, вядовец і ўдзельнікі робяць пераклічку:

— Заяц-месяц, дзе быў?
— У лесе.
— Што рабіў?
— Сена касіў.
— Куды клаў?
— Пад калоду.
— Хто ўзяў?
— Чур.

На гэтым слове ўсе разбягаюцца, а той, каму выпала сказаць яго, — ловіць іх. Каго ён зловіць, той і заяц. І гульня пачынаецца зноў.

## ВОЎК

Аднаго з дзяцей выбіраем "ваўком", а астатнія — "гусі".

Гусі: "Воўк, воўк, што ты робіш?"
Воўк: "Яму капаю!"
Гусі: "Навошта табе яма?"
Воўк: "Ваду грэць!"
Гусі: "Навошта табе вада?"
Воўк: "Шыла мыць!"
Гусі: "Навошта табе шыла?"
Воўк: "Гусі калоць!"
Гусі: "А дзе будзеш браць:"
Воўк: "У вас красці!"

Пасля гэтых слоў "гусі" разбягаюцца. Каго "воўк" зловіць, той ці выбывае з гульні, ці становіцца "ваўком".

## ГУСАЧОК

Аднаго з дзяцей выбіраюць "гусачком". Да рук яму чапляюць самаробныя крылы. Дзеці, стоячы метры за тры ад "гусачка", крычаць:

*- Го-го-го, гусачок!*
*Зрабі хлопчыкам свісток*
*З белага крыла,*
*Ды з бліскучага пяра!*

"Гусачок" паважна набліжаецца і крылом дакранаецца да каго-небудзь з гульцоў. Той і будзе далей "гусачком" — гэта пачэсна.

## ГРУШКА

(Карагодная)

Усе дзеці бяруцца за рукі і становяцца ў круг, усярэдзіне прысядае хлопчык ці дзяўчынка — "грушка". Дзеці ходзяць карагодам і спяваюць:

*- А мы грушку пасадзілі, ўсе, ўсе.*
*Няхай наша грушка расце, расце.*

"Грушка" у гэты час павольна падымаецца.

*- Вырасці ты. грушка,*
*вось такой вышыні,*
*Распусціся, грушка,*
*вось такой шырыні.*

Дзеці паказваюць, як "грушка" расце ўверх і ўшыркі.

*- Расці, расці, грушка, ды ў добры час,*
*Патанцуй, грушачка,*
*паскачы для нас.*

"Грушка" танцуе, падыходзячы да кожнага ўдзельніка карагода.

*- А мы тую грушку*
*ўсе шчыпаці будзем,*
*Ад нашай грушачкі ўцякаці будзем.*

Усе падыходзяць да "грушкі", каб пашчыпаць яе, і хуценька ўцякаюць. Каго "грушка" зловіць, той сам становіцца "грушкай".

## ЯВАР

Двое гульцоў, стаўшы адзін насупраць другога і ўзяўшыся за рукі, падымаюць іх угору — робяць "вароты". Астатнія, таксама ўзяўшыся за рукі, ланцужком праходзяць у вароты, прыгаворваючы:

*- Явар, явар, яварочак,*
*Яваровы дзеткі*
*У варотцы, у варотцы*
*Дзвесце коней прапускалі,*
*Аднаго затрымалі.*
*Гэта будзеш ты.*

На апошніх словах "явар" апускае рукі. Каго ён затрымае, той выбывае з гульні, і так да апошняга.

## ДРОЗД І ГОЛУБ

Усе ходзяць па кругу пад музыку. У цэнтры круга — "дрозд", а за кругам — "голуб". "Дрозд" спявае:

*- Ці еў? Ці абедаў? Ці еў? Ці абедаў?*

Голуб варкуе:

*- Фарсіш, братка, падай стрэлку, злаўлю дзеўку. Пух! Пух! Пух!*

"Голуб" ловіць каго-небудзь, і той становіцца "голубам". І ўжо ён пачынае гульню, а "дрозд" ловіць. І так да той пары, пакуль ўсе гульцы не пабудуць птушкамі.

## КАША ПРЫГАРЭЛА

Ці малюецца, ці робіцца печ з прыпечкам, на які ставяць сапраўдны гаршчок. Удзельніку гульні даюць у рукі вілкі, завязваюць вочы. Па камандзе ён павінен тройчы павярнуцца вакол сябе і ісці да печы, каб выцягнуць гаршчок. Калі здолее падчапіць яго з першага разу, то атрымлівае прыз.

## ПЛЯЦЕНЬ

Гуляць можна з любой колькасцю удзельнікаў. Па ліку выбіраюць аднаго "расплятальшчыка". Ён адыходзіць і адварочваецца. За гэты час астатнія, ўзяўшыся з арукі, заплятаюцца ў пляцень. "Расплятальнік" павінен знайсці апошняга і расплятаць так, каб рукі ў гульцоў не разрываліся.

## МАРОЗ

З гульцоў выбіраюць двух Дзядоў Марозаў — Мароз Чырвоны Нос і Мароз Сіні Нос. Яны становяцца ў цэнтры залы і спяваюць:

*- Я Мароз Чырвоны Нос,*
*Я Мароз Сіні Нос.*
*Хто да нас падыйдзе,*
*Замарозім ураз.*

Усе разбягаюцца, а марозы павінны "замарожваць": як да каго дакрануцца, той стаіць нерухома — "замарожаны", пакуль хто з сяброў яго не "размарозіць", дакрануўшыся рукой. А марозы не даюць "размарожваць".

## СПРЫТНЯГА

Адзін з гульцоў выцягвае руку, павярнуўшы далоняй уніз. Астатнія прыстаўляюць па адным пальцы пад яго далонь. Вядовец пачынае:

*- Пад бабчынай хатай*
*Завяліся мышы.*
*Бабка пачала лічыць —*
*Адна мышка ўжо пішчыць.*

На апошніх словах ён хапае пальцы. Чый ухапіў, той павінен выканаць загад (песню, танец ці інш.) і становіцца на месца лаўца "мышэй".

## БОТЫ

Для пачатку трэба незаўважна з кожнай пары абутку схаваць адзін бот ці туфель. (Калі няма дзе хаваць, можна проста перамяшаць ўвесь абутак.)

Вядовец спявае:

*- У балоце на калодзе мядзведзь боты шые,*
*А малыя мядзведзікі шоўкам падшываюць.*
*Хто тут затрымаецца,*
*таму бот дастанецца."*

На гэтых словах кожны кідаецца шукаць свой абутак і павінен знайсці за адну хвіліну. Хто будзе апошнім, той пачынае вадзіць гульню.

## ГУЛЬНЯ-ДРАЖНІЛКА "БЭРКА-ЦУКЕРКА"

Дзеці выбіраюць аднаго па ліку і называюць яго "Бэрка-цукерка". Гуляючыя адыходзяць ад яго і пачынаюць дражніць, тройчы паўтараючы: "Бэрка, Бэрка, дай цукерку". Пасля трэцяга разу "Бэрка-цукерка" бяжыць, каб да кагосьці дакрануцца рукой ці палачкай. Але дакрануцца ён можа толькі да таго, хто не паспеў прысесці. Той, да каго дакрануўся, становіцца "Бэркай-цукеркай", і гульня працягваецца.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

*Склаў Ігар Паўлоўскі*



**Па гарызанталях:** 1. Гарнизон. 3. Крестик. 6. Палач. 8. Жажда. 9. Подъём (натхненне). 11. Лезвие. 12. Ушат. 13. Зрение. 16. Басня. 17. Льдина (на рацэ). 19. Шишка (на галаве). 21. Рановата. 23. Тормоз. 17. Кофе. 28. Мятеж. 29. Грядка. 32. Ура. 33. Почка (анат.). 34. Овраги. 35. Видоизменение. 36. Спасибо.

**Па вертыкалях:** 1. Запор (на браме). 2. Громадина (будынак). 4. Совет. 5. Защёлка (на дзвярах). 6. Ковш. 7. Топот. 8. Повестка. 10. Мурава. 14. Состав. 15. Дама (у картах). 16. Сирень. 18. Или (злучнік). 19. Гродно. 20. Грациозный. 22. Отвар. 24. Вяло. 25. Скорбь. 26. Жулик. 30. Кувшин. 31. Щебень.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 10. 2003 г.
Наклад 2000 асобнікаў. Замова № 2296.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)